 





# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 6 (1093) ГОД XXII БЕЛАСТОК 6 ЛЮТАГА 1977 г. ЦАНА 60 гр.


## НАВАГОДНІ ДВАЦЦАТЫ

Традыцыйна, ужо дваццаты раз, варшаўскі клуб БГКТ наладзіў навагодні карнавальны баль.

І як заўсёды, выклікаў ён вялікае зацікаўленне ў жыхароў сталіцы. Сабралася звыш 600 чалавек (не хапіла месца для ўсіх жадаючых).

— Мы сустрэліся тут, — гаварыў старшыня варшаўскага клуба БГКТ др **Аляксандр Баршчэўскі**, — не толькі дзеля таго, каб весела правесці час, але таксама і перш за ўсё таму, каб урачыста і радасна адзначыць такія знамянальныя гістарычныя падзеі, як 58-ую гадавіну існавання БССР і 32-ую гадавіну з дня вызвалення Варшавы. Нашы сэрцы напоўнены дружалюбнымі пачуццямі...

І сапраўды, у аграмадных, але да адказу запоўненых залах Палаца культуры і навукі настрой урачысты, прыўзняты, святочны. Жанчыны ў самых модных карнавальных сукенках, іх партнёры — у візітных касцюмах, пад галстукамі і мушкамі, дзе-нідзе сустракаецца смокінг, а то і фрак.

Сустрэліся тут прадстаўнікі самых розных прафесій і сацыяльных праслоек. Знаёмлюся з кампаніяй за сталікам, дзе давялося мне сядзець. Дзве настаўніцы, выпускніцы беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, два інжынеры. Адзін будаўнік, які прымае ўдзел у праектаванні многіх жылых кварталаў нашай сталіцы, а другі — спецыяліст па авіятэхніцы, нейкі час працаваў пры пабудове супольнага савецка-польскага самалёта для патрэб сельскай гаспадаркі, а цяпер займаецца супернавейшым станкабудаўніцтвам. Усе яны з Беласточчыны.

(Працяг на стар. 5)



*Над Плоскай.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## ЗВЫШ САРАКА ГОД СОЛТЫСАМ

— Памятаю, было гэта якраз у аўсянное жніво 1915 года. Знячэўку ў наша сяло ўскочыў эскадрон казакаў, рассыпаўся па панадворках і давай усіх гнаць з хатаў, гэта значыць у бежанства. Што ж, рад няволяй згарнулі людзі свой небагаты скарб, у мяхі папхалі ды ў плахты перавязалі, ўкінулі на вазы, дзеціямі тое сваё багацце абсадзіўшы, ды павалакліся з дому. У глыбокую восень давалакліся да Мінска. Там нас пагрузілі ў вагоны і адправілі аж у Арэнбургскую губерню, на пабярэжжа ракі Урал. Трапілі мы ў сяло Ісаева-Дзедава, цяперашняе Акцябрскае. Тамашнія людзі прынялі нас цёпла, сардэчна, дапамагалі ў харчах, у адзежы, ў грошах, ва ўсім. Я пайшоў у школу. Калі ж падзеі Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны дакаціліся і да нашага сцяпнога краю, яны захапілі і мяне...

Дрыжачай рукой **Андрэй Селеванюк** высоўвае шуфлядку ў старэнькім і кволенькім, як і ён сам, сталe, перагортвае ў ёй стусік розных папераў, дастае сярод іх адну і кладзе перада мною. У ёй гаворыцца, што паводле дакументаў партыйнага архіву Арэнбургскага абласнога камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза мой размоўца *„служил в Красной Армии в железнодорожных войсках на участке Троицк — Орск. Принят в комсомол в марте 1920 года и в то же время принят кандидатом в члены РКП(б) и 3 июля 1921 года принят Исаево-Дедовским райкомом партии в члены РКП(б). Работал заведующим отделом Исаево-Дедовского райисполкома, заведующим хозяйственным отделом Исаево-Дедовского райкома комсомола, секретарём волостного комитета Российского коммунистического союза молодежи“*. За гэтымі сціслымі і сухімі словамі дакумента, выдадзенага ўсяго некалькі год назад і прысланага з далёкага Арэнбурга сюды, у Курашава, крыецца многа гістарычных падзей, у якіх удзельнічаў сёння ўжо сямідзесяцігадовы А. Селеванюк. Сярод іх — устанаўленне на Прыураллі Савецкай улады, партызанская барацьба на тылах войск Калчака, барацьба з бандамі атамана Дутава за ўмацаванне народнай улады. А потым...



— А потым раптам навалілася пошасць тыфу. Людзі мерлі, як мухі. Памёр мой бацька. Маці пачала благаць: „Едзем, дзеткі, едзем дадому, у Курашава“. Але і ёй, і майму дзядзьку, і чацвярым маім сёстрам і братам не суджана было пабачыць родны кут. Пахаваў я іх разам з іншымі бежанскімі сем'ямі з Курашава і рушыў разам са сваёй сястрою на радзіму. Прыехалі мы ўвосень 1922 года. Вёска стаяла, а як жа ж, не была спалена, але жыць не

Працяг на стар. 4

**(РАЗМОВА З ДАЦ. ДР МЕДЫЦЫНЫ УЛАДЗІСЛАВАМ ПРЭНГОЎСКІМ)**




Пакуль пачнем нашу размову, напомнім коратка: у канцы 60-х гадоў дац. др медыцыны Уладзіслаў Прэнгоўскі быў ініцыятарам вялікага і важнага грамадскага руху на нашай тэрыторыі — барацьбы з курэннем тытуню. У 1971 годзе ў Беластоку быў створаны грамадскі камітэт па барацьбе з курэннем тытуню. Узначаліў яго дац. У. Прэнгоўскі. За сваю дзейнасць атрымаў адзнаку „Заслужаны для Беласточчыны“.

**— Якімі сіламі вядзеце вы гэтую дзейнасць?**

— Перш за ўсё — дзякуючы самаахвярнасці лекараў. Яны даюць даклады, праводзяць гутаркі ў школах, клубах, ездзяць, сустракаюцца, раз'ясняюць, пераконваюць, арганізуюць гурткі праціўнікаў тытуню. Добра, асабліва ў апошні час, развіваецца супрацоўніцтва з рэдакцыямі беластоцкіх газет і радыё.

**— Ці можаце назваць лепш працуючыя супрацьтытунёвыя гурткі?**

— Найлепшы ў горадзе Аўгустоў, ім кіруе там Марыя Клочка. Добры гурток ёсць у Бельску — вядзе яго мгр Марціняк, ды ў Сямяцічах — з др Мацьковякам на чале. У Беластоку вельмі многа і аддана працуе ў гэтай галіне др Дабравольскі — сапраўдны энтузіяст ідэі чыстага паветра. Але, напрыклад, не ўдалося нам дагэтуль арганізаваць аніводнага гуртка ў Ломжынскім ваяводстве. Лекары ў сваёй штодзённай практыцы таксама вучаць, як кінуць курыць. Такія парады даюцца ў спецыяльных парадняix і ўвогуле ўсюды. Я, калі сутыкаюся з хворымі курцамі, адразу кажу, што трэба кінуць курэнне, калі хочаш, чалавеча, сапраўды вылечыцца.

**— Бо папяроса такая небяспечная?..**

— Вельмі небяспечная. Гэта вораг нумар 1 людскога здароўя. Слухайце: у Польшчы 70% людзей курыць — гэта ж 20 мільёнаў асоб безупынна атручваецца, не гаворачы ўжо пра факт, што некаторыя хваробы немагчыма вылечыць, калі чалавек не пакіне курыць. Мы павінны падаць чалавеку руку і памагчы кінуць курыць.

**— Многія лічаць, што кінуць курыць вельмі цяжка, проста немагчыма, і што папяросы супакойваюць нервы...**

— Нічога больш фальшывага! І кінуць курыць не цяжка. Трэба толькі зразумець і пераканацца ў шкоднасці папяросаў, тады кінеш без ніякіх клопатаў. Арганізм адразу адчувае сябе лепш. Трэба толькі хацець! Мае пацыенты нават уважліва слухаюць парады і кідаюць курыць пераважна адразу. Асабліва паслухмяныя вясковыя людзі — сяляне. Яны адразу кідаюць курыць і ўжо не вяртаюцца да гэтага. І хачу сказаць, такія людзі куды хутчэй вылечваюцца з розных цяжкіх хвароб.

**— На што папяросы найбольш шкодныя?**

— Не выбіраюць. Абсалютна шкодны на ўсё: на дыхальныя дарогі, на кровазварот, на сэрца, на лёгкія, на жалудак, на нервы — паражаюць памяць, на мачавы пузыр — рак, на горла — рак. Курэнне папяросаў даводзіць у пазнейшым узросце да рака лёгкіх. Гэта ўжо даказана цяпер, што ў курыльшчыкаў да 30 разоў часцей выступае рак лёгкіх, чым у някурачых. Курэнне вельмі шкоднае патомству маці, якая курыць. Даказана, што калі маці, будучы цяжарнай, курыла, у дзіцяці выступаюць розныя хваравлівыя прызнакі: так званае „мровене“ цела — як бы цела абмірала, халоднасць ног і пальцаў. Сярод патомства курачых бацькоў часцей выступае інфаркт (завал) сэрца. Дзеці курачай маці бываюць меншыя, горш растуць і развіваюцца, часцей да іх чапляюцца хваробы сэрца.

**— А як выглядае справа барацьбы з тытунём у свеце?**

— Вялікі рух барацьбы з курэннем развіваецца ва ўсім свеце. Першы кангрэс, прысвечаны гэтай тэме, адбыўся ў ЗША. Міністр здароўя гэтай краіны, сам

Працяг на стар. 4

 

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 217

## Блізкасць далёкага

### ШАСНАЦЦАТАЕ

Я стараўся праславіць
I песню і грудзі.
Матэрыя жыць не умее
Без духа.
Жвавы праменьчык
Мамонта разбудзіць,
Калі пападзе яму ў голае вуха.
Свет прыгожы таму,
Што ён вечна разумны —
У кругазваротах,
У зімах і летах,
Жытнёвая мудрасць
Заснула у гумнах,
Прыйшоўшы з асенніх,
Ружовых палеткаў.
Нам з жанчынамі добра,
Нам з жанчынамі дрэнна.
I спяваем і плачам
Ад іхняй натуры.
Істота жыцця —
Любіць перамены.
Вянчаць са спакоем
Бунтарную буру.

### СЕМНАЦЦАТАЕ

Ці каханне было,
Ці мне толькі здалося?
Можа так,
Можа не.
Можа ўзяў яго з кнігі.
А быць можа яго
Пашаптала мне восень
Пад вячэрняй, зялёнай
Зарою Нямігі?
Ці было, ці мо не,
Разбірацца не будзем.
Трэба цешыцца тым,
Калі сэрца квітнее.
Загляньце ў мяне,
Усе добрыя людзі,
Калі хочаце ўбачыць
Твар добрай надзеі.
Я прайшоўся па небе,
Абняўшыся з сонцам,
I вулканы ва мне,
I узрывы, і атам.
Небяспечны і добры я стаў,
Нібы стронцый.
Як жабрак, я убогі
I, як князь, я багаты.

### ВАСЕМНАЦЦАТАЕ

Сказаў раз Геракліт,
Што нельга двойчы увайсці
У тую самую раку...
Я чую песню у трысці,
Бяру ваду ў руку.
I чую струмень
Вечнага ўцякання.
О праміnанне!
Галоўны атрыбут жыцця...
Стары я,
Прагну слоў дзіцяці...
Вада ўсё новая,
Вада ўсё новая...
Не праў быў Геракліт,
Бо рэчка вечная, як маці,
А я?
Часовы я!

### ДЗЕВЯТНАЦЦАТАЕ

Даруй!
Бо не скажу разумнага нічога.
Сатлела ўсё
I спапялілася у горле.
Былі блакітныя
I мары і дарогі.
А сёння шлях мой
Чорны,
Чорны,
Чорны!
I чорны я,
Як ноч начэй у лістападах.
Бо не магу сказаць
Нікому болей — МАМА.
Была, ды адплыла далёка
Мая радасць
I вокал сосны ў чэрні —
Сэрца майго дамы.
Якое гора,
Не умею я маліцца,
Не знаю „Верую"
I слаба „Запаветы".
I з-пад гары бяжыць
Жалобная крыніца
I гасне на вачах
Маёй надзеі лета.

### ДВАЦЦАТАЕ

Мяне так моцна падвяло „сягоння",
Рашуча запярэчыла яно „учора" —
Бачу віноўніка, як на далоні,
Завецца Барскі — мой найгоршы
вораг!

**Алесь Барскі**

---

Стаміла мяне ўжо нешта
сукенка майго цела,
Увесь час нязменная,
Здаецца, ужо цеснаватая...
Ужо паліняла...
Але калі б яе зняла,
змяла
і кінула...
Ці душа мая мяне б захапіла?
Ці ў зернях гадзінаў штодзённасці шэрай
душа цвіла кветкай,
ці спапялялася?

**Варвара Л. Кваніш**

## Нэхай іграе спружына молодосьці

Акорды
рытм
гэсты
музыка
лёгкасць
бас
стукот
тупот коньськіх копыт
скачэш по вуглам
слов
шэлест
шум
гром
аж до

найвыжшого
пункту
іголка.
Іграе кров
Іграе нэрв
Іграе гібкосьць
Іграе спружына
молодосьці
Вона
я
і
моя
дыўчына.

**П. Кірызюк**

## Калісьці быў гаспадаром

*Колькі ж было ў жыцці імкненняў, мар!*
*Усё былое — толькі ва ўспамінах.*
*Старэча ён, ужо не гаспадар,*
*Век дажывае ў горадзе, у сына.*

*Ён ноччу вёску бачыць заўжды ў сне.*
*Сумуе ўдзень, душой і сэрцам хворы.*
*Сам у кватэры — быццам у труне,*
*Паветра не хапае і прасторы.*

*Калісьці ў вёсцы быў гаспадаром,*
*Сям'ю меў, поле, луг і добрых коней.*
*I ганарыўся ён сваім дабром,*
*Здабытым мазалямі на далонях.*

*Нічога ўжо не мае сёння ён.*
*Сын пераняў турботы, абавязкі.*
*I асталіся на адхоне дзён*
*Толькі сыноўя дабрата і ласка.*

**Віктар Швед**






## Юрка Панасюк

Нарадзіўся я ў 1958 годзе. Малым пазнаў і пакахаў беларускую мову з яе жаласнымі песнямі і маляўнічымі казкамі.

Пазней, уже за школьнай партай, я сутыкнуўся з паэзіяй і асабліва палюбіў Норвіда, Ясеніна, Галчынскага...

Цяпер я з'яўляюся вучнем IV класа беларускага ліцэя ў Бельску.

### СЛОВАМ

*Хто ты босы*
*ласуеш сланечнік*
*і плюеш на лысых*
*і касых?*
*Чаму рогат*
*у пamер другі*
*праносіш*
*за шэпт*
*за крок*
*за знак*
*за позірк?*

. . . . . . . .

*А высока*
*вунь высока*
*нават у вуха*
*і на вусы*
*завязаў твой шаль*
*на вузел*
*так трывожна*
*і цікава*
*і вясёла*
*і зялёна.*

---

* * *

*знаю што*
*шар адзін*

*бачыла што*
*паросшы*
*ахоўваемымі і*
*пустазеллем*

*пасрэдна*
*адзін-табе*
*адзін — мне*

*дык вось*
*удумайся*

**Ваву**

---

Як ціха ціха
нічога не чуваць
адыйшло ўсё
дзесь далёка
і той дом са
страхой сівой
тое крэсла што
часамі было
з нагой крывой
адыйшло
і вярнуцца не хоча
а якая была ў мяне
яшчэ цяпер ахвота
зірнуць на тое
раз-адзіны
успамянуць
тыя хвіліны
блізкія і
дарагія
але такія малыя
малыя
і сказаць слова
роднае
і глянуць на неба
пагоднае
і на ўсё што
калісь было каля
мяне і блізкіх
як добра было б
распачаць жыць
ад гадоў як
былі мы ў калысцы
і такімі вачыма
дзіцяці на гэты
свет белы
і быць умелым
умелым
умелым.

**Хрысціна Саўко**

---

* * *

*Гэта нібы*
*так проста*
*забіць чалавека*
*словам*
*мацнейшым ад неба*
*і ад жалеза*
*цвярдзейшым*
*гэта нібы*
*так проста*
*а як балюча*
*жыць чалавеку*
*забітаму словам*
*ці хтосьці*
*гэта знае*

**Агнія**

---

* * *

Найцяжэй дзверы
замкнуць
ключ
выкінуць на сметнік
няма вяртання
змаўкаюць
абамлелыя зоры
выкінуць ключ
найцяжэй.

**Вераніка Леанюк**

---

* * *

Непакой
вечны,
Непакой
нашага веку...
А гаварыць,
што калісьці добра,
Спакойна было,
без турбот...
А мо мераць праблемы
Эпохай!?
Людзі?..
Неспакойныя заўсёды
Былі
у жыцці, а яно
Школу давала ім.
А з урокаў ніхто...
Мала хто
карыстаў, добрым вучнем
Не быў...
Дык чаго ж наракаць
На праблемы,
клапоты,
На свет?
Чаго?

**Юрка Харкевіч**

## Жыццёвая карусель

*На гарызонце бела-бела,*
*ззаду адцвіўшы вяне сад,*
*што даспявала — то даспела,*
*што не даспела — згіне й так.*

*Новае поле узарана,*
*новыя парасткі надзей,*
*адно маліtва тая ж сама*
*і той жа самы цяг падзей.*

*І знойку след свежай магілы,*
*няма ні кветак, ані слоў,*
*толькі на крыжавыя крылы*
*час прыгвазздзіў некалькі дзён.*

**Міхась Шаховіч**

---

* * *

Праляцела глыбокае рэха
Прошлай пары
Пары чакання
Пары надзеі
Пары расстання.
Я не бачу зялёных дрэў
I неба блакітнага
I
Сонца.
Мой дзень
Стаў ноччу
А ноч
Днём
У густым тумане
Усё кругом.
Так.
Я ў кругу
Не-зачараваным...
Я
Хіба
Жыццём
Ачараваны
Расчараваны...

**Надзея Артымовіч**

## Надыходзіць ноч

*Неба пацямнела*
*Сонца*
*скрыла свае доўгія праменні*
*за лесам*
*Імгла*
*ўстае падымаецца вышэй вышэй*
*На цюльпанах*
*раса*
*блішчыцьззяе як сонца*
*У вокнах*
*святло*
*запаляецца*
*цень яго на зямлі*
*Ужо канчыцца*
*дзень*
*яшчэ адзін дзень*

**Ірэна Баравік**

# ЗВЫШ САРАКА ГОД СОЛТЫСАМ

(Працяг са стар. 1)

было з чаго. Пайшоў я працаваць на гайнаўскі тартак, каб неяк пракарміць сябе і сястру. Зараз жа давялося адслужыць у войску, а потым шэсць год я рабіў на гайнаўскай хімічнай фабрыцы. Хацеў падзарабіць грош ды прыкупіць што-небудзь у гаспадарцы. Ажаніўся, маючы ўжо 29 год. Вельмі цяжка ўсё мне прыходзіла, збіраўся з усім, як убогі на кісель. Прыдбаў неяк каня, кароўку. А тут сястру трэба выдаваць замуж — прыйшлося аддзяліць ад гаспадаркі ладны кусок ёй у пасаг. Выходзіла замуж жончына сястра — таксама зямлёй выпасажыў. І ўсё намагаўся, каб з іншымі людзьмі пораўні ісці. Нялёгка даводзілася. Калі ж ужо жыць можна было, бо часы зусім іншыя прыйшлі, памерла ў 1950 годзе жонка і прыйшлося мне самому і дзяцей даглядаць, і на гаспадарцы тупаць, і пра грамадскія справы не забываць...

А грамадскія справы ў жыцці А. Селеванюка часцей за ўсё займалі першае месца. Такі прынцып жыццёвых паводзін прыняў ён яшчэ ў тыя пераломныя гады на Прыураллі. Працуючы ў Гайнаўцы, прымаў ён удзел у забастоўках, дэманстрацыях, мітынгах, а ў Курашаве ўступіў у Незалежную сялянскую партыю, якая разам з Беларускай сялянска-рабочай грамадой змагалася супраць тагачаснага буржуазна-памешчыцкага ўраду. Заснаваў гурток НПХ у Курашаве, а таксама ў Чыжах. Шанавалі яго людзі, а ў 1935 годзе вёска аднагалосна выбрала солтысам. Але нехта данёс у паліцыю, што ў Курашаве камуніста выбралі солтысам. Прыехалі і з гміны і з павету, перапыталі ўсіх і старых і малых, але кожны цвярдзіў адно: „Селеванюк — чалавек добры, мы яго хочам мець сваім солтысам, мы яго і выбралі“. Так пачалася яго грамадская служба, што працягваецца і па сённяшні дзень — без перапынку ўжо сорак другі год!

— Вядома, часы неспакойныя былі, і многае давялося перажыць. Яшчэ ў Прыураллі я навучыўся жыць з людзьмі ў згодзе, станавіцца ў абарону чалавека беднага і пакрыўджанага. І гэта мне дапамагала нават у самыя цяжкія моманты. Прыпамінаю, як сёння, у часе акупацыі трапіў у наша сяло былы савецкі салдат Аляксандр Ільінскі. З фашысцкага канцэнтрацыйнага лагера ўцёк. Хоць гэта і пагражала смерцю, але я ўсё ж дапамог яму і ўладкавацца ў вёсцы, і дастаў усе неабходныя дакументы. Другі, Дзімітр Дубавічэнка, з'явіўся ў мяне надта хворы. Мая свякруха яму і банкі ставіла, і розным зеллем лячыла, і, ведаеце, неяк, на шчасце, выхадзіла. Я паклапаціўся пра сям'ю, пры якой ён мог бы жыць. І так вось, ведаеце, мы чалавек дванаццаць савецкіх салдат у сяле перахавалі. Потым некаторыя з іх у партызаны падаліся, а іншыя, калі прыйшло вызваленне, адразу уступілі ў Савецкую Армію. Шмат хто з іх вярнуўся з вайны. Не забыліся пра мяне: і прыязджаюць, і пішуць.

Сярод пакладзеных перада мною А. Селеванюком лістоў, паштовак і фотакартак знаходжу тыя, што прыйшлі ад А. Ільінскага, які цяпер жыве ў Оршы, Д. Дубавічэнкі, што знаходзіцца ва ўкраінскім горадзе Сумы. У пісьмах словы ўдзячнасці, запрашэнні наведаць іх у Савецкім Саюзе. Вельмі прыемныя пісьмы.

— Ведаеце, — заўважае ён у задуме, — на маіх вачах жыццё зусім перамянілася як ва ўсіх вялікіх справах, так і ў кожнай драбніцы. Для прыкладу, наша сяло, што калісьці сядзела, закінутае сярод поля, ператварылася ў нейкую спецыялізаваную ды механізаваную фабрыку сельскагаспадарчых прадуктаў. У нас кожны чацверты гаспадар мае свой трактар з камплектам машын. Добра развіваецца гадоўля: на сваёй ферме Я. Насута трымае 50 штук свіней, на двухгектаровай гаспадарцы Я. Грыгарук патрапіць выгадаваць аж 64 кормнікі ў год, іншыя, як С. Каліноўскі, толькі што пабудавалі або будуюць сучасныя свінафермы. Многа тут таксама садоўнікаў і агароднікаў, што цэлымі тонамі дастаўляюць фрукты і гародніну ў „Вітаміну“ і на рынак. Самыя лепшыя сады маюць Васіль і Уладзімір Анішчукі, Аляксей Анішчук, Ян Янцэвіч, Іосіф Паўлючук, цяпер вялікі сад пасадзіў Рыгор Паўлючук. Гародніну вырошчваюць Антон Дзмітрук, Мікалай Артэмюк, Аляксандр Мартынюк і іншыя. Так, жыццё пайшло па новаму руслу.

А. Селеванюк у 1945 г. уступіў у ППР, да сённяшняга дня з'яўляецца актыўным членам партыі. Цяпер ён ужо на пенсіі. Усе яго трое дзяцей — дачка і два сыны працуюць і маюць свае сем'і. Выразам прызнання яго заслуг для грамадства з'яўляюцца ўручаныя яму Залаты Крыж Заслугі, медаль 1000-годдзя Польскай Дзяржавы, залаты і сярэбраны знакі „Заслужаны для Беласточчыны“. Ён мог бы ўжо даўно перадаць свае грамадскія абавязкі солтыса каму іншаму, бо і абавязкаў гэтых у Курашаве, вёсцы з 173 гаспадаркамі, не так і мала. Дзеці просяць яго пераехаць жыць пры іх. А ён мне прызнаецца:

— Хочацца яшчэ паслужыць і дзяржаве, і людзям...

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 1)

## Курыць, ці не курыць?

лекар, сфармуляваў там тэзіс: „Курэнне пагражае жыццю“. У дыскусіі на кангрэсе на гэтую тэму прыняў удзел тадышні прэзідэнт ЗША Джон Кенедзі. Справу ўзняла потым хутка Швецыя, Англія, цяпер Нарвегія. У Швецыі яны, напрыклад, рашылі, што пакаленне, якое нарадзілася ў 1974 годзе, ніколі не возьме ў рукі папяросу.

**— Асабістае пытанне: чаму вы ўзяліся за гэты рух?**

— Бо я сам адчуваў вялікую шкоднасць курэння. Я курыў 30 год, а барацьбу з курэннем пачаў ад сябе. Не было лёгка, асабліва, калі чалавек апынуўся сярод іншых, ведаеце як гэта ў нас бывае, частуюць. Але ў 1969 годзе кінуў раз назаўсёды і ў 1970 годзе ўзняў на Беласточчыне акцыю перамогі чалавека над ворагам, якім з'яўляецца тытунь.

Дадамо, што акцыя супраць курэння, якую ўзняў наш размоўца, была адной з першых у краіне. А цяпер запрашаем усіх да барацьбы з супольным ворагам у імя нашага здароўя і здароўя нашых дзяцей.

Размову запісала
**Вера Леўчук**



## Этнаграфічнае акенца



*Вадзяны млын у Красным каля Супраслі.*
*Фота М. Гайдука.*

## Наш каляндар

## РЫГОР МУРАШКА

З-пад яго пяра не выйшла асабліва многа твораў, аднак і тыя нешматлікія апавяданні, аповесці і раманы, якія ён пакінуў як плод сваёй шаснаццацігадовай творчасці, займаюць у нашай літаратуры адметнае месца.

У літаратуру ішоў Р. Мурашка тым жа шляхам, якім ішлі многія сучасныя яму беларускія творцы. Нарадзіўся ён 3 лютага 1902 г. на Случчыне. Пасля заканчэння сельскага пачатковага вучылішча яму пашчасліва трапіць у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, але адтуль у 1919 г. яго, вучня другога класа, вырываюць падзеі Грамадзянскай вайны. Ён пакідае школьную лаўку, ідзе ў партызанскі атрад, а затым дабравольцам уступае ў Чырвоную Армію. Пасля заканчэння ваеннай службы ён працуе на савецкай і партыйнай рабоце.

Першае апавяданне ён напісаў у 1924 годзе ў часе службы ў Чырвонай Арміі і апошні свой раман канчаў у 1940 годзе, калі ля заходніх граніц СССР вырастала смяротная пагроза і трэба было зноў думаць пра абавязкі воіна. Вогненнае лета 1941 г. застае Р. Мурашку на падпольнай рабоце, спачатку ён дзейнічае ў Мінску, а затым у партызанскім атрадзе на Лагойшчыне, там і гіне ў красавіку 1944 г. у часе прарыву блакады партызанскім атрадам.

У сваёй творчасці Р. Мурашка імкнуўся асэнсаваць і па-свойму адлюстраваць тыя пераўтварэнні ў жыцці і псіхалогіі людзей, што наступалі ў Беларусі перад і пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. І так, у першым зборніку яго апавяданняў „Стрэл начны ў лесе“ (1926 г.) пераважаюць творы аб розных матывацыях і паводзінах дабравольных і міжвольных удзельнікаў Грамадзянскай вайны. Класавая дыферэнцыяцыя і фармаванне свядомасці рабочага класа на беларускіх землях напярэдадні і ў часе рэвалюцыі 1905-07 гадоў пакладзены ў аснову першага рамана Р. Мурашкі „Сын“ (1929 г.). У цэнтры ўвагі аўтара ў апавяданнях, што ўвайшлі ў зборнік „Прыгранічны манастыр“ (1930 г.), знаходзяцца праблемы барацьбы з рознымі ворагамі савецкай улады. Ломка старога і станаўленне новага ў беларускай вёсцы пачатку 30-х гадоў, заядлая барацьба двух светаў у ёй — вось на што засяроджвае Р. Мурашка ўвагу чытача ў сваім апошнім рамане „Салаўі святога Палікара“ (1940 г.).

Р. Мурашка быў таленавітым канструктарам сваіх твораў і памайстэрску валодаў вобразным багаццем роднай мовы. Яго творам уласцівы напружанасць сітуацыі і хуткае разгортванне падзей.

(іс)

## Беларуская літаратура
Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ЧАСТКА VIII**

**„У чым яго крыўда“.** Трэцім творам „інтэлігенцкага“ цыкла з'яўляецца апавяданне „У чым яго крыўда“. Твор гэты адзначаецца структурнай спецыфікай. Складаецца ён з дзевяці лістаў. Няма ў ім якога-колечы аўтарскага каментарыя. Усе падзеі, якія ахопліваюць лісты, адбываюцца ад 12 студзеня па 18 сакавіка 1910 года.

Твор „У чым яго крыўда“ толькі ўмоўна называем апавяданнем. Па сутнасці маем дачыненне з рэестрам лістаў. Аднак выступае ў ім тэматычная працягласць і свайго роду фабула. Галоўным героем апавядання з'яўляецца, так як гэта мы ўжо бачылі ў творах „Узлазні“ і „Роднае карэнне“, вучань сялянскага паходжання, гэта значыць чалавек, які становіцца інтэлігентам, або, як аб гэтым гаворыцца ў творы, мужык, „які выходзіць у людзі“ ці „лезе ў паны“. Герой Касцючок Зарэмба належыць, як і вядомыя ўжо нам Клім Шамоўскі і Архіп Лінкевіч, да тых выхадцаў з вёскі, якія разам з пераходам у інтэлігенцкі слой не намерваюцца парываць ні з беларускай мовай, ні з вясковымі традыцыямі, ні з беларускай свядомасцю. Зарэмба балюча перажывае непаўнапраўнае становішча беларускай нацыі, пагарду да беларускай мовы, вялікапанскія адносіны інтэлігенцыі да селяніна. Нявырашанасць або абсурднасць у пастаноўцы гэтых праблем, бяссільнасць аднаго чалавека ва ўсім гэтым можна было б і назваць прычынай „Яго крыўды“, вынесенай у загаловак твора. Тут і бачым праяў комплексу з'яў, якія ўплываюць на ўнутраны разлад інтэлігентаў — выхадцаў з вёскі, запаўняючых старонкі твораў Гарэцкага.

Аднак не грамадскія і не нацыянальныя пытанні з'яўляюцца ў апавяданні найважнейшыя. У гэтым творы істоту канфлікту перанёс пісьменнік на прыватны, асабісты, маральны грунт.

Змест твора просты. Касцючок Зарэмба ў час прабывання ў вёсцы закахаўся ў вясковую дзяўчыну Ганначку. Вярнуўшыся ў горад, піша да яе ліст, у якім вылівае сваё вялікае пачуццё, абяцае каханне да смерці, прапануе сужонства. Радасць Касцюка настолькі вялікая, што ён аб сваім стане паведамляе лістом таксама свайму сябру. Вынікам выслання ліста Касцюка ў вёску з'яўляюцца лісты ад яго бацькі, брата, нейкага вясковага кавалера, урэшце самой Ганначкі. Бацька і брат інфармуюць Касцюку аб „катастрафальных“ выніках яго ліста да Ганначкі, якая бегае па ўсёй вёсцы, носіць ліст за ліфчыкам і з гордасцю яго чытае ўсім каму трэба і не трэба. Зразумела, што ўсё гэта становіцца ў вёсцы сенсацыяй, якая атрымоўвае дзесяткі недарэчлівых тлумачэнняў. Кароткі, але як жа вымоўны ліст, атрыманы Касцюком ад ананімнага вясковага кавалера, мабыць, таксама закаханага ў Ганначку. Вось яго змест: „Калі ты дурак, дык не бегай за вясковымі, а хоціць у цябе гарадскіх. А то на Вялікадня пераламаім табе ногі і напішам зверх таго дырэктару ў вучылішча“.

Кульмінацыя „драмы“ Касцюка звязана з лістам, які ён урэшце атрымоўвае ад Ганначкі. Прывядзем яго фрагмент: „Рука пісала, не ведала каму, а сэрдэнька сказала, што міламу свайму. Пішу пісьмо ад сярдзечнай мукі, ляці, пісьмо, міленькаму ў рукі.

Пісьмо ад Анны Лявонавай Валютыніч няцэннаму другу. У першых страках майго пісьма, што звешчаю Вас, як люблю, паважаемы Каньсцянцін Міхайлавіч, і што жыва і здарова і аб тым і вам зычу ад госпада бога і ўсяго ўспеха ў руках і дзелах вашых“.

І гэтак далей. Пасля атрымання такога ліста Касцючок зразумеў, што не ведаў, каго кахае. Дзяўчына аказалася абсалютным прымітывам, з якім найбольш дэмакратычна настроены інтэлігент не звяжа свайго лёсу. Зразумела, што каханне Касцюка канчаецца з такой самай хуткасцю, як яно і пачалося.

Якія з усёй гісторыі вывады, хто вінаваты, у чым крыўда героя? Па сутнасці вінавата пачуццё, якое можа зрабіць чалавека сляпым. Другая прычына больш складаная. Перакананне звышдэмакратычных інтэлігентаў народніцкага ўклона ў дасканаласці народнай масы і ў неіснаванні маральных граніц паміж людзьмі розных класаў з'яўляецца прыгожай тэорыяй. Аднак, тэорыя гэта не заўсёды можа быць рэалізавана практычна. Касцюк Зарэмба не зразумеў гэтага. У гэтым і праявілася яго крыўда. Такі, мабыць, быў кірунак мышлення Гарэцкага.

(Працяг са стар. 1)

# НАВАГОДНІ ДВАЦЦАТЫ

Разглядаюся па зале. Як жа ж многа тут знаёмых, людзей, якія адзначыліся грамадскай актыўнасцю ў дваццацігадовай дзейнасці БГКТ. **Юрка Туронак з жонкаю, Хведар Галёнка, Мікалай Данілюк, Віктар Швед,** а разам з ім за сталом **Уладзімір Станкевіч,** даўнейшы старшыня Галоўнага праўлення БГКТ, а зараз заслужаны пенсіянер, за якім ужо 68 год жыцця. Прашу яго сказаць аб уражаннях.

— Ведаеце што, — гаворыць ён, — як не дзіўна, але я ўпершыню прыйшоў на гэты баль. Неяк раней і не хацелася, і здавалася — куды мне там, старому, хай маладыя гуляюць... А цяпер шкадую, што так думаў. Бо тут такая свойская, сяброўская, задушэўная атмасфера, якую рэдка сустрэнеш у нашым штодзённым жыцці, запоўненым будніпнімі турботамі. Сэрца расце і цешыцца, калі я бачу, як весела гуляе супольна беларуская, руская, украінская і польская моладзь. А дзе не павернешся, усюды сябры і знаёмыя. З Беластока, з Варшавы, з Гданьска, са Шчэціна... Жадаюць добрага здароўя і доўгага жыцця. Аж неяк няёмка робіцца ад хвалявання. А гэтыя песні... Маладосць напамінаюць...

І сапраўды, быццам па загаду, недзе ад канца залы пранеслася *„Гэта ты мая, зорка ясная, ты любоў мая непагасная...“*. Праз хвіліну з другога боку пад гукі вальса *„Люблю наш край, старонку гэту...“*, а затым і несмяротная *„Выпрагайце, хлопцы, коней“*, і *„Шла дзевэчка“*..., і многія, многія іншыя...

**Зінка Туронак** (яна ў цудоўнай зялёнага колеру сукенцы) з'яўляецца „ветэранам“ гэтых варшаўскіх баляў. Свае ўражанні яна перадае коратка.

— Гэта ж зразумела! На наш баль проста немагчыма не пайсці! Я сабе гэтага не ўяўляю. Нават цяпер, калі мяне чакае абарона магістэрскай працы...

Зінаіда Туронак завочна канчае зараз беларускую філалогію. Жадаю ёй поспехаў і вяртаюся да сваёй кампаніі, а тут прыйшла наведаць сваіх сяброўак яшчэ адна выпускніца беларускай філалогіі, **Надзя Артымовіч,** якую чамусьці ўсе называюць Адай. Яна таленавітая пачынаючая беларуская паэтэса. Нядаўна ў варшаўскім клубе адбылася яе аўтарская сустрэча.

...А час праходзіць беспрыкметна. Вось і дванаццатая гадзіна. Страляюць бутэлькі шампанскага, Аляксандр Баршчэўскі выступае з навагоднім прывітаннем, вакальны калектыў „Каласкі“ з Беластока, які спецыяльна запрасілі на гэты баль, спявае „Многае лета“, аркестр адгукаецца, выконваючы „Сто лят“, усе цалуюцца, абменьваюцца пажаданнямі...

А пасля — аж да самай раніцы... бестурботна, супольна, культурна...

— І так у нас заўсёды, — гаворыць др Баршчэўскі. — Без боек і якіх-колеч непрыемных інцыдэнтаў.

— **А я,** — адзначае Віктар Швед, — хачу выказаць шчырую падзяку ўсяму арганізацыйнаму камітэту гэтага балю, ды асабліва **Хведару Галёнку,** які вельмі спраўна наладзіў пастаўку усяго таго, што знаходзілася на сталах і ў буфеце, хачу падзякаваць студэнтам беларускай філалогіі, якія прынялі на сябе нялёгкія заданні парадкавай службы, а таксама кіраўніцтву Палаца культуры і навукі, якое дазволіла нам наладзіць гэты баль у сваіх залах.

**Віктар Рудчык**




*У задрыпанскага гаспадара Мітрафана Ф. захварэла карова. Выклікалі ветэрынара і той сцвердзіў, што ў жалудку Мітрафанавай карміцелькі знаходзіцца іншароднае цела. У выніку аперацыі з жалудка Пярэстай было ўстаронена паўкілаграма манет. Убачыўшы нечаканы скарб, жонка гаспадара схапілася за галаву:*

*— Нарэшце ведаю, дзе мой стары хаваў грошы.*

# ХРОНІКА

■ 13 студзеня ў памяшканні ГП БГКТ у Беластоку адбыўся традыцыйны баль, які даў пачатак карнавальным вечарынам гарадскога гуртка БГКТ.

■ 13 студзеня і гайнаўскі гурток БГКТ арганізаваў традыцыйны баль у Доме настаўніка.

■ Варшаўскі гурток БГКТ такое ж мерапрыемства арганізаваў 15 студзеня ў Палацы культуры і навукі. На балі далі канцэрт члены беластоцкага харавога калектыву „Каласкі“.

■ 16 студзеня адбыліся раённыя агляды беларускай песні. З беластоцкага раёна ў памяшканні ГП выступіла 20 чалавек. Сярод іх: дзве салісткі — Софія Цацэрка з Баброўнікаў і Анна Стахіюк з Трасцянкі, два дуэты — Ніна Мушынская і Ніна Цыванюк, а таксама Галена Кот і Ірэна Паўлючук з Гарадка. У групе вакальных калектываў выступілі: тэрцэт з Баброўнікаў і харавая група з Гарадка. З горада Беластока ў конкурсе на беларускую песню бралі ўдзел: у катэгорыі салістаў — Люба Гаўрылюк, а ў катэгорыі дуэтаў — Мікалай Мінько і Аляксандр Монах.

■ На раённы агляд у Кляшчэлях прыбыло таксама 20 асоб. Беларускія песні выконвалі дзве салісткі: Міраслава Яновіч з Мілейчыц і Ірэна Рашчэнка з Кляшчэляў. Дуэтаў не было. У катэгорыі вакальных калектываў выступалі самадзейнікі з Тапаркоў, Дабрывады, Мілейчыц і Рагачоў.

(мх)

# У ЛЗС-АЎЦАЎ

Арганізацыя ЛЗС у гміне Бельск налічвае семсот членаў, аб'яднаных у 32 гуртках. У іх ліку ёсць 118 вясковых дзяўчат. Да найлепшых гурткоў ЛЗС належаць гурткі ў Кнарыдах (ён заваяваў у мінулым годзе кубак начальніка гміны), Дубяжыне, Пасынках і Аўгустове. Гурток ЛЗС з Кнарыдаў здабыў таксама кубак ваяводскіх улад ЛЗС у Беластоку. Футбольная каманда з Кнарыдаў заваявала другое месца ў розыгрышах на кубак Галоўнага праўлення ЛЗС. Добрых поспехаў дабіліся спартсмены з Пілікаў. Асабліва мужчынская футбольная каманда. На лісце найлепшых яна займае трэцяе месца ў ваяводстве.

У розыгрышах настольнага тэніса і шахматных розыгрышах найлепшымі ў гміне з'яўляюцца тэнісісты і шахматысты з ЛЗС у Аўгустове. У шахматных розыгрышах „За залатую вежу“ аўгустоўскія шахматысты занялі пятае месца ў ваяводстве.

У мінулым годзе гміннае праўленне ЛЗС у Бельску арганізавала спартыўныя спаборніцтвы з нагоды народнага фэстына ў вёсцы Мокрае. У спаборніцтвах удзельнічалі футбольныя і валейбольныя каманды з Кнарыдаў і Студзіводаў. Тады і адбыліся бегі на сярэднія дыстанцыі, матаровыя спаборніцтвы ў рамках спаборніцтваў „За залатую каску“. Ва ўсіх гэтых спаборніцтвах прымала ўдзел 147 спартсменаў, у тым ліку трыццаць спартсменак.

1 мая бельскі ЛЗС арганізаваў спаборніцтвы велагоншчыкаў.

З нагоды гміннай дажыначнай урачыстасці спаборнічалі мужчынскія футбольныя каманды, а дзяўчаты сыгралі матчы



*Выступае старшыня гміннага праўлення ЛЗС у Бельску Сцяпан Канаховіч.*

ў сяткоўку. Спаборнічалі ЛЗС-аўскія каманды з Кнарыдаў, Дубяжына, Аўгустова, Бельска. Усіх удзельнікаў было 164, у тым ліку 35 дзяўчат.

У мінулым годзе гурткі ЛЗС з Бельшчыны пабудавалі некалькі спартыўных пляцовак, узбагаціліся спартыўным абсталяваннем.

16 студзеня гэтага года ў Бельску адбыўся з'езд дэлегатаў гміннай арганізацыі ЛЗС. Было іх 40. Гаварылі яны аб патрэбах бельскіх спартсменаў, аб плённым супрацоўніцтве з ГС, гміннай управай, СКР, спулдзельчым банкам і інш. у галіне фінансавай дапамогі і ў сродках транспарту. Прадстаўнікі гурткоў ЛЗС з паасобных вёсак дзяліліся сваім вопытам у развіцці масавай спартыўнай дзейнасці, аб бліжэйшых сваіх намерах — арганізацыі зімніх спартакіядаў на лыжах, каньках, аб арганізацыі кулікаў (намечаны бліжэйшы кулік 12 лютага ў Стрыках), фінальных розыгрышаў у шашкі і шахматы.

У час з'езду заслужаным спартсменам былі ўручаны дыпломы (20 штук), а таксама сярэбраныя і залатыя значкі ЛЗС (тры). З'езд намеціў планы далейшай дзейнасці на два гады. Былі выбраны новыя ўлады. Старшынёю ЛЗС гміны быў аднагалосна выбраны ранейшы яе старшыня Сцяпан Канаховіч. Намеснікамі яго з'яўляюцца: Веслаў Сакалоўскі, Валянцін Базылюк, Ядвіга Крынская. Функцыя сакратара даверана Мікалаю Крупіцкаму, а скарбніка — Ірэне Лубінскай. Старшынёй рэвізійнай камісіі быў выбраны Яўген Цар.

На з'ездзе была прынята прапанова пабудовы спортпляцовак у Мокрым, Лубіне Касцельным і іншых вёсках.

Тэкст і фота
**Я. Цялушэцкага**



*Памятны здымак узнагароджаных спартсменаў і дзеячоў спартыўнага руху на Бельшчыне.*




# ЛЮБЛЮ ВЁСКУ, АЛЕ...

Вёска... Вёска... Шыр размоклых, утканых зялёнай рунню ніў, на якіх, быццам бы скваркі, ляжаць апошнія лапіны парыжэлага снегу. Панадворкі, перапоўненыя кудахканнем кур, што сабраўшыся кучаю ля пяцізубых цёрніц, якія згодна з узмахам рукі жанчыны-дырыжора, спяваюць сваю ласкатлівую песню, грабуцца ў разлятаючайся на ўсе бакі каросце.

— Як яе не любіць з яе зялёнавясёлкавымі лугамі, з салаўінай песняй араматнага бэзу, залітага серабрыстым мільгатаннем зор. Толькі любавацца. Жыццё, здаецца, аддаў бы, каб так, як раней, удыхаючы церпкі запах рассеўшагася на мяжы палыну, перамешаны з араматным подыхам збажыны, што цёплай хваляй плыве над налітымі каласамі, ісці з касой на плячах на свой палетак. Ах як, здаецца, лавіў бы пажаўцелыя лісты, ідучы вясковай вуліцай, прыбранай белізной баб'яга лета, ды ўцягваў бы ў грудзі смакавіты пах дыму ад з'ядаемага вогнішчам бульбяніку, — думаў сабе Іван. — Страшэнна люблю вёску, кожнаму і пры кожнай нагодзе паўтараю гэта. — У мяне нічуць няма гарадскога. Я селянін і душа мая чыста сялянская.

І сапраўды. Кватэра яго М-3 застаўлена сялянскай мэбляй, што зрабіў яму яго бацька столяр, на сцяне сімвалічна вісіць газоўка, на полцы стаяць драўляныя пасталы ды гліняныя збаночкі, на сценах ільняныя ручнікі, вытканыя і вышытыя маткай, ложак засланы саматканкай, якая з'яўляецца пладом той самай прамысловасці, што і ручнікі. Зусім як у сялянскай хаце, адно толькі сцены мураваныя.

— Бо што значыць горад у параўнанні з вёскай, — разважаў далей Іван. — Нават неба і тое пабеленае. Толькі абрэзкі відаць. Нават сузор'я поўнасцю нельга ўбачыць. А там шыр бяскрайняя, зорныя дываны, серабрысты месяц.

І так паўтаралася амаль кожны дзень. Заўсёды, калі толькі была найбольшая нагрузка работы, Іван пераносіўся ў вёску і летуценна плыў ды плыў. Але гэты дзень быў асаблівы. Каляды. Школьнікі ўсе параз'язджаліся па хатах, каб гэты вечар правесці ўрачыста ў сямейным кругу. Выязджаў таксама і Іван. Так хацелася б правесці ўсё па-народнаму, так як раней. На вёсцы ў яго старэнькія бацькі, якія напэўна яго чакаюць.

— Напэўна ўжо селі вячэраць, — думаў Іван, ідучы ад аўтобуса заснежанай дарогай. Зоры на небе ўжо ж запаліліся. Зоры... якая безліч іх. Сёлета куры павінны несціся добра. Неба ж такое зорнае-зорнае...

Але есці яшчэ не селі. Чакалі. У хаце ўсё было прыбранае. Стол, засланы сенам, якое прыкрываў белы абрус, красаваўся дванаццаццю традыцыйнымі стравамі, у кутку стаяў зроблены з жыта госцік. Усё так, як даўней. Нічога не змянілася.

— Ах, як я люблю вёску, — сказаў Іван пасля вячэры. — Вось тут жыццё! Не то што ў горадзе. Там чалавек, як вязень, закуты ў бетонныя сцены, асуджаны на безупынны гул матораў, пазбаўлены чыстага паветра, прасторы.

— Так. Толькі ніхто вас туды не саджаў сілаю, — адказаў бацька. — Вяртайся ў вёску.

— Абавязкі, праца...

— Школа то і ў нас ёсць, можаш і тут дзяцей вучыць.

— Ага, калі дрэнна, то прыязджай, сынок, — прагаварыла маці. — На гаспадарцы працаваць будзеш. А там прасторы колькі хочаш. Мы ўжо з бацькам старыя, сілы няма. Здаваць за рэнту думаем.

— За рэнту? Што вы? Прадайце, возьмеце шмат грошай, а жыць у мяне можаце, кватэра вялікая. На што вам рэнта? Што адразу куча грошай, то не нейкая там месячная палучка.

— Але там жа прасторы няма.

Іван апусціў галаву, не змогшы нічога адказаць.

**Бізун**




**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

*Заказвала Галіна Юзвюк з Барысаўкі.*




Дарагое Сэрцайка, з Ёзікам хаджу я ўжо тры гады. І дагэтуль усё было ў парадку. Гаварылі ўжо нават пра вяселле. Але прыкмеціла я, што Ёзік ашуквае мяне. Дакладна я яшчэ ў гэтым не ўпэўнена, але паводзіць сябе ён інакш, як даўней. Стаў занадта мілы, ветлівы, мусіць, віну ён за сабой чуе. Бо нядаўна ўбачыла я яго з дзяўчынай. Спытала, што за яна. Сказаў, што сяброўка з працы. Але і сяброўка мне сказала, што бачыла яго з дзяўчынай, ды нават абняўшыся ішлі. Я ўжо не стрымалася і зрабіла яму скандал. А ён тлумачыўся і казаў, што толькі мяне кахае. Але я яму цяпер не веру, здаецца, што хлусіць, ашуквае мяне. І не ведаю, як пераканацца, як яно сапраўды ёсць. Памажы, Сэрцайка!

Галіна з Бельшчыны

Галіна! Адказаць тут нялётка. Пераважна, калі ўжо хлопца зацікавіць іншая дзяўчына, ён пачынае якраз антыпатычна адносіцца да папярэдняй. Але бываюць і такія, што, адчуваючы сябе вінаватымі, стараюцца быць яшчэ больш ветлівымі. Часцей гэтак паводзяць сябе жанатыя перад жонкай, каб не парушыць спакою сям'і. Хлопцу, не звязанаму з дзяўчынай, няма сэнсу іграць гэткага двуліцоўца. Ды можа гэта ён той дзяўчыне падабаецца, і яна каля яго круціцца... Аднак пагавары з Ёзікам сур'ёзна, але калі і гэта нічога не дасць, пастаў Ёзіка ў такім жа палажэнні: прайдзіся з нейкім хлопцам, каб ён убачыў, або ад некага даведаўся. Гэта часамі добры рэцэпт. Так ці інакш, калі ідзе ў вас гаворка аб вяселлі, справу трэба выясніць.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Я вучуся ў VIII класе. Аднойчы мне прыснілася, што я з сяброўкай і сябрам ішла ў сад. Я ўбачыла грушу, і мне захацелася грушак. Вальдэк сказаў, што мне нарве. Але калі ён сабраўся ўлезці на грушу, я ўжо сядзела на ёй. Вальдэк пачаў лезці па голях уверх. Я пачала крычаць, каб ён не лез, бо зляціць. Ён сказаў, каб я за яго не баялася. Грушак я аднак не паспрабавала. І тут я з ім апынулася ў адным з класаў маёй школы. Вальдэк пачаў мне варажыць на картах, большых за кнігі. І тут ён мне кажа, што я маю з ім дзіця. Я сышла на ніжні калідор, узяла сваю сумку з кнігамі і ўвайшла ў клас, а ён стаяў у дзвярах. Я спытала яго, ці не выходзіць ён кудысьці. А ён кажа, што не. Мы выйшлі з класа. На тым я прачнулася.

Што можа абазначаць мой сон?

Эля М.

Дарагая Эля! Не пішаш, які гэта быў сад. Калі быў вялікі і квітнеючы, чакае цябе поспех у тваіх справах. Калі б сад быў запушчаны і сумны, абазначала б гэта для цябе сумную старасць. Але куды там табе яшчэ да старасці! Так што, прымаем першую версію, зрэшты, сад жа быў з пладамі. Вы з сябрам лазілі па дрэвах — абазначае гэта поспех у справах і, здаецца, аб табе ўсе пачуюць, станеш вядомай (можа, ўдзел у нейкай алімпіядзе?). Добра, што не паспрабавала ты грушы, бо ведай: зрываць грушы з дрэва — нейкі прыбытак, а есці іх — пэўная хвароба! Тое, што была ты ў школе, таксама прадказвае нейкі поспех і сямейныя радасці. Сцеражыся толькі, каб той твой сябра не папсаваў тут нічога: ён жа табе варажыў на картах, значыць, можа зрабіць нейкі брыдкі і сквапны ўчынак у адносінах да цябе.

**Астрон**

## Ці ведаеце, што...

...у 1976 годзе беластоцкія СКР-ы мелі сярэдні ўраджай чатырох асноўных збожжавых культур 23,1 ц/га, бульбы — 192 ц/га, буракоў — 214,3 ц/га.

...у мінулым годзе сельскагаспадарчыя гурткі Беластоцкага ваяводства сабралі 13 000 тон збожжа. Гадуюць яны 19 тысяч свіней, 2 600 штук быдла і больш 1 500 авечак.

...у 1976 годзе беластоцкія СКР-ы прадалі дзяржаве 3 000 тон свінога мяса.

...сельскагаспадарчыя гурткі Беласточчыны маюць у сваім уладанні маёмасць агульнай вартасці 1 400 мільёнаў злотых, у тым даволі багаты парк сельскагаспадарчых машын: 2 503 трактары, 1 154 бульбакапалак, 1 219 снопавязалак, 177 збожжавых камбайнаў „Вістуля“ і 113 збожжавых камбайнаў „Бізон“.

...бельская СКР мае 3 343 членаў сельскагаспадарчых гурткоў, у тым ліку 1 595 асоб гэта вясковыя жанчыны, згуртаваныя ў КГВ.

(ця)

## А ВЯСНА НЕ ЗА ГАРАМІ...

Што, якія новыя струмені нясе нам веснавая мода? Хаця на двары яшчэ мароз, пара ўжо над гэтым прызадумацца, калі хто збіраецца штосьці новае пашыць сабе на красавік — май.

Што нясе? Перш за ўсё — прастату і элегантнасць. Відаць гэта па мадэлях, паказаных намі сёння. Такія касцюмы сталі ўжо амаль класічнымі, але асабліва модныя яны цяпер, калі жаночыя штаны ўжо крыху прыеліся. Пад такі касцюм можна апрануць любую блузачку (з гольфам, каўнерыкам, з бантам) і змяняць такім чынам штораз выгляд касцюма. Можна дапоўніць убор берэтам ці капелюшом: неабходна, каб гарманізаваў ён з адпаведнымі туфлямі ці ботамі.

На верхнім здымку вы бачыце касцюм, які складаецца з расшыранай спаднічкі і паліто такой жа даўжыні (светлага колеру), а да гэтага цямнейшая блузачка; на двух ніжніх здымках паказаны адзін і той жа касцюм у двух версіях (з поясам і без яго). Такі касцюм можна пашыць з мяккай імітацыі замшу.

Што датычыцца дадаткаў, дык вельмі модныя цяпер сумачкі-кніжкі, вузкія скураныя паясочкі, а таксама брошкі з пер'яў ці брошкі, прадстаўляючыя штучныя фрукты (на здымку).

**Сяброўка**










Хутка дывізія ўступіла ў горад. З падвалаў і сховішчаў пачалі выходзіць жыхары. Адчыняліся аканіцы. Сапраўднае свята было ля касцёла, адкуль выйшлі заложнікі.

— Ханка! Ёсць тут Ханка?! — крычаў Мірзаян.

Да яго падышлі дзве дзяўчыны.

Арам спачатку пачаў тлумачыць дзяўчатам, што яму, маўляў, патрэбна тая Ханка, у якой ёсць родзіч ці сусед Янак, як раптам ззаду яго шыю абхапілі худзенькія рукі хлопчыка.

— Глядзі ты, пазнаў, хлопчык! Я ж цяпер у іншай форме. А вось пазнаў, — радасна гаварыў Арам, высока падняўшы Янака, нібы паказваючы яго ўсім: і салдатам, і жыхарам, якія змешаным натоўпам запоўнілі плошчу.

*

Дывізія Музыкіна з цяжкімі баямі ішла па Германіі.

У невялікім лесе сустрэлі трох у форме савецкіх салдат. Высветлілася, ні адзін з іх не ведае ні слова па-руску.

Дапытваючы кожнага з невядомых, Арам даведаўся жудасную рэч. Фашысты стварылі спецыяльныя каманды, у задачу якіх уваходзіла па-зверску расправіцца з людзьмі ў нямецкіх вёсках, забіваць сваіх жа суайчыннікаў, але рабіць гэта, пераапрануўшыся ў форму савецкіх салдат і афіцэраў.

Калі пра гэта даведаліся байцы, абурэнню іх не было межаў. І Арам, звярнуўшыся да камандавання і атрымаўшы дазвол, зрабіў незвычайнае. Ён загадаў адвесці фашыстаў у тую вёску, з насельніцтва якой яны здзекваліся яшчэ ўчора, выдаючы сябе за савецкіх байцоў, і выкрыць іх перад мясцовым насельніцтвам.

Разведчыкі, якія на чале з нампалітам выконвалі гэта заданне, вярнуліся маўклівыя і ўрачыстыя. Жыхары вёскі адразу пазналі сваіх катаў. Нампаліт, хвалюючыся, расказваў Араму:

— Разумееш, спачатку яны неахвотна збіраліся да кірхі. Твары стомленыя, злосныя. Больш жанчыны, старыя. А як перакладчык сказаў: „Пазнаеце гэтых? Гэта вашы ж гітлераўцы“, — тут быццам узарваліся ўсе. Адзін падышоў да мяне худы-худы, рукі жылістыя, сялянскія. Крычыць штосьці, нават штурхнуў мяне ў грудзі. Я — за зброю. А перакладчык наш смяецца: „Ён, таварыш нампаліт, раскрыўдзіўся, што вы сказалі „вашы, маўляў, гітлераўцы“.

— Ну, я яму растлумачыў, што крыўдзіцца ён павінен толькі на сябе. Вельмі позна задумаліся яны над тым, што такое фашызм.

— Так, дзіўны гэты народ. Акуратны, разумны, — паглядзі, як гаспадарку вядуць: любата! А тут прахлопалі...

У гэты момант лейтэнант са штаба палка падаў Мірзаяну пакет.

— Вельмі тэрмінова, таварыш маёр. Загадана чакаць адказу.

— Чаму пакет? Хіба сувязь парушана?

— Так точна. Нямецкі батальён прарваўся на стыку нашых часцей і пайшоў у тыл.

Арам прабег вачыма невялікі лісток.

— Вось табе і пагутарылі аб палітыцы!..

Ён паглядзеў на лейтэнанта.

— Перадайце ў штаб палка, што зараз жа выступаем.

...Ніхто ў дывізійным шпіталі, які займаў некалькі невялікіх сялянскіх хат, не падазраваў, што фашысты могуць прыйсці сюды з мінуты на мінуту.

Задачай Мірзаяна было эвакуіраваць параненых. Але, калі яны падышлі да шпіталя, прыйшло іншае рашэнне.

— Вось што, — сказаў ён урачам і сёстрам, якія абступілі яго. — Трэба вынесці параненых у лес, далей ад дарогі, а мы дадзім тут бой фашыстам. Бо тут яны разлічваюць на беспакаранае глумленне з параненых, а не на моцнага праціўніка. Цяпер усё залежыць ад вас, таварышы. Дзейнічайце як мага хутчэй. Праз паўгадзіны, сама болей, фашысты тут з'явяцца... Байцы дапамогуць вынесці параненых і будуць іх ахоўваць. А мы сустрэнем фашыстаў.

Людзі працавалі моўчкі, але так дакладна і ўзгоднена, быццам разумелі адзін аднаго. У гэтай трывожнай цішыні, якую парушала толькі бразганне дзвярэй і рыпенне мыліц, не чуваць было ні скаргаў, ні стогнаў.

Да Арама і іншых афіцэраў некалькі разоў падыходзілі параненыя і прасілі дазволу застацца, выдаць ім зброю, але Арам быў няўмольны.

Ён накіраваўся да байцоў, якія ўстанаўлівалі кулямёты.

— Трэба, каб фашысты адразу трапілі

